„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.



# Ніва



№ 28 (72) БЕЛАСТОК, 14 ЛІПЕНЯ 1957 г. ГОД II

МАКСІМ ТАНК

## Ave Maria!

Звон кафедральны кліча на Ave
З цесных завулкаў злева і справа
Гуркам манашкі ў чорным адзенні
Цягнуцца, быццам сумныя цені,
Тут і старыя, і маладыя —
Ave Maria!

Я не звярнуў-бы і ўвагі, можа,
Каб не пабачыў між іх прыгожай
Адной манашкі, якая мае
Не больш хіба, як семнаццаць маяў,
Чорныя вочы, бровы густыя —
Ave Maria!

На'т пад жалобнай вопраткай чорнай
Ты адгадаеш стан непакорны,
Ножкі, якімі-б на карнавалах
І захапляла, і чаравала,
Смуглыя рукі, грудзі тугія —
Ave Maria!

Глядзіць набожна на крыж Пятровы,
А я малюся на яе бровы:
Няўжо, красуня, ты не шкадуеш,
Што хараство і жыццё марнуеш?
Як танцавалі-б ножкі такія —
Ave Maria!

Цябе атрутаю апаілі.
Ружанцам рукі табе скруцілі —
Смялей парві ты яго, не бойся!
У полі недзе шуміць калоссе...
О, як-бы жалі рукі такія —
Ave Maria!

А потым хутка прыйшло-б каханне,
Страчала-б з мілым свой золак ранні,
А потым стала-б ты гаспадыняй
І калыхала-б сваю дзяціну!
О, як кармілі-б грудзі такія —
Ave Maria!

Не знаю, можа, мая малітва
Мне памагла-б выйграць гэтую бітву,
Але пазвалі яе: манашка
Пайшла за ўсімі, ўздыхнуўшы цяжка,
Пад зводы змрочныя і глухія —
Ave Maria!

*(З цыкла «Вершы з дарогі»)*



АЛІ АХОЛ - ВАЛО. З дажынак. Чытай артыкул на стар. 3.

## Аб працы рэдакцыі беларускіх падручнікаў

Не ўсе ведаюць аб тым, што пры Дзяржаўным выдавецтве школьных падручнікаў у Варшаве існуе рэдакцыя падручнікаў для школ з няпольскай мовай навучання і што ў рамах гэтай рэдакцыі існуюць паасобныя секцыі, а паміж імі і секцыя беларускіх падручнікаў.

Што справа друку беларускіх падручнікаў з'яўляецца сапраўды першачарговай, думаю не трэба нікога пераконваць. Як доўга беларускае насельніцтва ў Польшчы, асабліва наймалодшае пакаленне, не навучаецца добра валодаць сваёй роднай мовай, так доўга не можам спадзявацца шырэйшага размаху ў развіцці беларускай культуры, вялікага зацікаўлення беларускай літаратурай, беларускім друкам.

Думаю, што будзе вельмі добра, калі беларускае насельніцтва бліжэй пазнаёміцца з працай рэдакцыі школьных падручнікаў і даведаецца аб усіх тых цяжкасцях, якія стаяць на перашкодзе ў далейшай працы рэдакцыі.

Беларускія падручнікі пачалі апрацоўвацца ў 1949 годзе, згодна з пастановай Міністэрства Асветы. Першыя падручнікі ў нашай роднай мове выйшлі ў свет у 1951 годзе. Былі гэта арыфметыка да I — IV класаў і падручнік геаграфіі «Пазнай сваю краіну», якія друкаваліся ў 5 тыс. экземплярах. Першымі перакладчыкамі падручнікаў на беларускую мову былі: Н. Федаровіч, М. Пачыкоўская і Б. Бройка. Ад гэтага часу апрацаваннем падручнікаў да друку заняўся рэд. Б. Манкевіч, які з'яўляецца намеснікам кіраўніка рэдакцыі рэд. Э. Расінскага.

Разгарнуць працу над апрацаваннем беларускіх падручнікаў спачатку было вельмі цяжка. Рэдакцыя не мела ніякага беларускага слоўніка. Трудна было дастаць руска-беларускі слоўнік пад рэдакцыяй Александровіча. Трэба было яго недзе пазычыць. Тут рэдакцыі прыйшлі з дапамогай, пазычаючы часова гэты слоўнік, грам. Г. Кізевіч і І. Бернат.

Рэдакцыя прыступіла да працы ў трудных абставінах. Не было тэхнічнага забеспячэння, не было беларускай машыны, да пісання, а самае галоўнае — не было выразнага становішча Міністэрства Асветы. У выніку ўсяго гэтага ў 1952 годзе выйшаў з друку толькі адзін беларускі падручнік па геаграфіі «Пазнай сваю краіну» для IV класа. У 1953 годзе выйшла з друку 10 беларускіх падручнікаў, у 1954 годзе — 8, у 1955 годзе 7 і ў 1956 годзе — 10 падручнікаў. Трэба тут сказаць таксама і аб тым, што ў гэтых гадах пры перакладках найбольш працавалі: М. Говар, Б. Бройка, Я. Радкевіч, Я. Петкевіч і Г. Лашэвіч.

У верасні 1954 года быў выдадзены для наймалодшага пакалення першы ў Народнай Польшчы беларускі буквар у тыражы 4 тысяч экземпляраў. Рыхтуецца ўжо другое перапрацаванае выданне гэтага буквара.

Вялікай дапамогай ў працы рэдакцыі аказаўся новы руска-беларускі слоўнік, выдадзены ў Маскве ў 1953 годзе, які паявіўся на нашым кніжным рынку ў сакавіку 1954 года.

Найважнейшай і вельмі цяжкай задачай рэдакцыі была падрыхтоўка беларускіх чытанак і хрэстаматыі. У галіне апрацоўкі чытанак і хрэстаматыі многа працы паклалі: З. Карпінская - Тэпер, В. Станкевіч, Лубнеўскі і Я. Гасеўскі.

Гэта ўсё з кароткай гісторыі рэдакцыі беларускіх падручнікаў.

А як выглядае праца рэдакцыі ў сучасны момант і якія выдавецкія планы прадбачаны рэдакцыяй ў будучыні?

На гэтае пытанне рэд. Б. Манкевіч адказаў, што па плану ў 1957 годзе павінна было выйсці 7 беларускіх падручнікаў, у іх ліку арыфметыка да I—IV класаў. Гэтыя падручнікі з'яўляюцца перакладамі новых польскіх падручнікаў. Аднак-жа дзеля таго, што папярэднія выданні беларускіх падручнікаў, асабліва арыфметыка, у значнай колькасці яшчэ не распрададзены, друк новых падручнікаў пакуль што спынены пастановай тыражнай камісіі пры Міністэрстве Асветы.

У гэтым годзе ўжо выйшаў з друку падручнік «Навука аб прыродзе» да IV класа, а ў наступным месяцы будзе друкавацца падручнік да III класа «Прырода з геаграфіяй». Новае перапрацаванае выданне буквара беларускія дзеці атрымаюць у канцы гэтага года.

На маё пытанне чаму так позна і ці нельга было-бы зрабіць нешта каб ён выйшаў з друку на пачатку новага школьнага года рэд. Б. Манкевіч адказаў, што ўсё залежыць ад тэхнічнай рэдакцыі. Звярніцеся ў гэтай справе да дырэктара тэхнічнага П. Калакоўскага.

Вось я так і зрабіў. Вельмі прыемна гутарылася з дырэктарам. На пачатку нашай размовы дыр. П. Калакоўскі сказаў, што немагчыма раней выдаць буквара таму, што апрача беларускага якраз у тым самым часе друкуюцца украінскі, літоўскі, славацкі і яўрэйскі буквары. Аднак у канцы нашай размовы дыр. П. Калакоўскі ў сувязі з маёй просьбай прыемна ўсміхаючыся сказаў, што ён спецыяльны сэнтымент адчувае да

*(Працяг на стар. 6)*

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА



 

# Тры гады работы савецкай атамнай электрастанцыі

Падзея, якая тры гады назад усхвалявала ўсё чалавецтва, у вахценным журнале адзначана лаканічна, строга тэхнічнай мовай: «17 гадзін 45 мінут. Выйшлі на турбіну». І ўсё. Так быў зафіксаваны пачатак работы першай у свеце атамнай электрастанцыі, якая адкрыла новую эру ў гісторыі тэхнікі.

Вось і сама станцыя. Яе чысценькі ўтульны гарадок размешчан у вельмі маляўнічай мясцовасці ў акружэнні прыгожага сасновага бору. Прыезджы часта чакае тут сустрэць штосьці незвычайнае, але ў гарадку жыццё ідзе таксама, як і на ўсёй савецкай зямлі.

— Які галоўны вынік трохгадовай прамысловай эксплуатацыі станцыі? — задаем пытанне яе дырэктару А. Н. Грыгар'янцу.

Адным з галоўных вынікаў з'яўляецца тое, што тэхналагічнае абсталяванне станцыі, створанае нашымі вучонымі, інжынерамі і рабочымі, — гаворыць ён, — вытрымала бліскучы трохгадовы экзамен і пераўзышло самыя аптымістычныя надзеі.

— А былі спачатку апасенні?

— Безумоўна. Ды інакш не магло і быць, мы-ж не мелі ніякага вопыту, бо такая станцыя будавалася ўпершыню ў сусветнай гісторыі. Натуральна, што перш за ўсё баяліся за самае адказнае — цеплавыдзяляючыя уранавыя элементы, якіх у рэактары налічваецца больш чым 500 штук. Іменна ў гэтых элементах ідзе працэс расшчаплення атамнага ядра ізатопа урана-235. За тры гады ў нас не выйшаў са строю ні адзін такі элемент, як і не было ніводнага выпадку парушэння тэхнікі біялагічнай бяспекі.

Каб лепш растлумачыць сказанае А. Н. Грыгар'янцам, пройдзем у галоўную залу да рэактара. З вестыбюля ў яе трапляеш па зігзагападобным праходзе праз двухметровую жалезабетонную сцяну. У першы момант гэтае высокае памяшканне расчароўвае. Тут пуста, нічога няма. Потым толькі заўважаеш вялікі, чорны круг, які прыкладна на трэць метра падымаецца ад падлогі. Пад гэтым кругам — магутнымі чыгуннымі плітамі, якія перагараджаюць шлях радыёактыўнаму выпраменьванню, і змяшчаецца рэактар. Яго не відаць.

Але як-жа ўсё-ж такі выглядае калі не сам рэактар у цэлым, то хоць-бы адзін з яго 128 тэхналагічных каналаў, кожны з якіх уключае ў сабе чатыры цеплавыдзяляючыя элементы?

Такі канал ляжыць на падстаўцы побач з рэактарам. Ён устаноўлен спецыяльна для шматлікіх экскурсантаў, якія прыязджаюць сюды з усіх канцоў свету. Гэта — круглы чорны шпень таўшчынёй з кісць рукі і даўжынёй метраў у шэсць, зверху ён пакрыты слоем графіту. Унутры шпяня па трубцы з нержавеючай сталі пад вялікім ціскам нагнятаецца дыстыліраваная вада. Затым вада ідзе ў адваротным напрамку, але ўжо не па адной, а чатырох трубках, — таксама з нержавеючай сталі і з двайнымі сценкамі. Адлегласць паміж сценкамі трубкі запоўнена «палівам» — ураннам. Гіганцкая ўнутрыядзерная энергія, якая выслабаняецца пры распадзе ядраў атама урана пад уздзеяннем патоку нейтронаў, праз сценку стальной трубкі ў выглядзе цяпла перадаецца вадзе. Аднак гэтая вада, якая выцякае з рэактара, радыёактыўная, таму яе цеплавая энергія не выкарыстоўваецца непасрэдна для генерацыі пары, а перадаецца праз спецыяльную сістэму трубаправодаў вадзе другога контура, з якой і ўтвараецца пара.

Але вернемся зноў да «паліва». Вядома, што такім палівам у рэактары з'яўляецца не сам уран, а яго ізатоп-235. У прыродным уране такога ізатопа ёсць толькі 0,71 працэнта. У элементах-жа рэактара (паміж сценкамі двухсценнай стальной трубкі) знаходзіцца абагачаны уран з утрыманнем ізатопа-235 у пяць працэнтаў. Але і гэтыя пяць працэнтаў поўнасцю не «выгараюць», а толькі да пэўнай мяжы. І калектыў станцыі вырашыў важную праблему, дабіўшыся больш поўнага «выгарання» каштоўнага ізатопа.

— Колькі-ж «паліва» — урана-235 — спажывае гэтая электрастанцыя магутнасцю ў 5 тысяч кіловат?

— Трыццаць грамаў у суткі!

Наўрад ці можна яшчэ на цяперашнім узроўні тэхнікі прадэманстраваць тую велізарную энергію, якая тоіцца ў атамным ядры.

Вялікім дасягненнем выдатнага калектыву эксплуатацыйнікаў станцыі з'яўляецца новы метад, створаны ім для загрузкі рэактара «палівам» — каналамі. У адпаведнасці з праектам усе 128 каналаў раней загружаліся ў адзін раз. Затым праз 100 дзён станцыя спынялася прыкладна на тыдзень для «перазарадкі». Апрацаваныя каналы вымаліся і замяняліся новымі. Аднак аказалася, што ўран «выгарае» больш інтэнсіўна ў каналах, размешчаных у цэнтры, і наадварот, — менш інтэнсіўна па краях. Тады пачалі ўжываць перагрузку рэактара па асобных зонах. І гэта дало вялікі эфект як у сэнсе скарачэння прастояў, так і больш поўнага выгарання ізатопа урана-235.

— Наогул трэба падкрэсліць, — адзначае А. Н. Грыгор'янц — што канструкцыя рэактара мае велізарныя патэнцыянальныя магчымасці, якія будуць выкарыстаны з яшчэ большым эфектам на новых атамных станцыях, якія будуюцца.

І. АРЦЕМАЎ
(Кар. ТАСС)



*Агульны выгляд атамнай электрастанцыі: 1 — атамны рэактар, 2 — выменнікі цяпла, 3 — паравы кацёл, 4 — галоўны паравы правод, 5 — помпы апырсківача, 6 — турбагенератары, 7 — халадзільныя вежы, 8 — басейн ахаладжаючай вады, 9 — падстанцыя трансфарматараў, 10 — станцыя помп, 11 — варштаты, 12 — магазін, 13 — будынак адміністрацыі.*

## Медыцынскі фенамен

У адным са шпіталяў у Багоце — сталіцы Калумбіі памерла дзіцё, сэрца якога на працягу 121 гадзін знаходзілася на версе злучанае з целам толькі крываноснымі сасудамі. На працягу 5-ці дзён дзіцё дыхала, крычала і ела.

Гэты выпадак выклікаў сенсацыю ў навуковым свеце.

# Хваробы гуркоў

Хваробай гуркоў з'яўляецца цвіль (мончняк). Расліна пакрываецца белай плесняй. Выступае яна на гурках пад канец лета, пры цёплай і вільготнай пагодзе. Пры пачатковым апанаванні гуркоў гэтай хваробай можам яе знішчыць, зрываючы заражанае лісцё, — а пры большым апанаванні — апырскваючы серкавым прэпаратам 0,1 — 1 працэнтным. (ад 1 грама — 10 грам на 1 літр вады).

Папулярнай хваробай гуркоў з'яўляецца таксама, так званая, карычневая плямістасць гуркоў, якая апаноўвае плады. На пладах паяўляюцца плямы пакрытыя зялёна-чорнай плесняй. Пры моцным апанаванні, плады змяняюць форму і вырастаюць малыя. Калі-не-калі на лісці з'яўляюцца плямы і яно дзіркавее.

Пазбегнуць гэтай хваробы можам праз дэзінфекцыю памяшкання і зямлі на рассаду; пры пасеве трэба мачыць насенне 0,5 працэнтным растворам фармаліну на працягу 4 гадзін. Хваробай гуркоў з'яўляецца таксама шэрая цвіль (плесень). Плады апанаваныя гэтай хваробай пакрываюцца шэрай і пушыстай плесняй і пасля загніваюць. Гэтая хвароба можа таксама з'явіцца на абумёрлым лісці і кветках.

Знішчыць хваробу можам: — вырываючы хворыя плады і лісцё, а пры моцным апанаванні — цэлыя расліны; або апырскваючы медзяным прэпаратам з дадаткам шэрага мыла. На гурках, падобна як і на памідорах, з'яўляюцца вірусовыя хваробы — мазаіка, якую знішчаем падобным спосабам. Вірусы атрыманы з расліны з'яўляюцца бялковай субстанцыяй. Велічыня вірусоў складае 0,02 мікрона (20 мілімікронаў).

На гурках выступае шкоднік — агурэчная мошка (мшыца огуркова), якая нападае пры высокай тэмпературы. Мошка высысае сок з расліны і расліна слаба развіваецца. Мошкі можам знішчыць апырскваючы растворам нікаціну з дадаткам шэрага мыла.

Інж. ВІТАЛІ МІРОН

# Маладыя ўзрывы

(Працяг са стар. 5)

ведацца што-колечы. Дарога, каторую перабегла цераз некалькі часін выдавалася ёй вельмі доўгай, а была так блізкай, толькі цераз панадворак.

Нажаль сястры не было дома. Чакала нервова ходзячы па хаце і ўсцяж спаглядаючы ў акно. Сэрца яе білася моцна.

Адчыніліся дзверы і Кацярына ўвайшла ў хату. Алеся кінулася да яе:

— Сястрыца кажы хутчэй... што ведаеш пра Сцяпана?

— Што-ж табе так рупіць Сцяпан? — спыталася Кацярына жартуючы.

—Як гэта што? Кахаю яго. Не ведаеш аб гэтым?... Кажы хутчэй! Звольнілі яго зусім?

— Гэтага не ведаю. Казаў толькі, што ўчора ў вечары вярнуўся.

— Ах, Божа, які ён нядобры і не прышоў, не сказаў нічога... Я гэтак мучуся... Больш нічога не ведаеш? Не мучылі яго там, не білі?... — пыталася рупліва як маці. Тата ўчора так нядобра казаў...

— А завошта-ж мелі-б яго мучыць, нікому ліха не хацеў і не рабіў.

— І невінаватых мучаюць. А што больш казаў?

— Казаў што ўсё будзе добра. «Грамада» развіваецца, а заўтра пойдуць — казаў, — у Пашкі і Вяліке сяло закладаць гурткі.

Па гэтых словах Алеся выбегла на панадворак. Не ведала куды кінуцца. Каб мела мушчынскую адвагу, пабегла-б да яго, да Сцяпанкі, але не мела яе. Убегла ў сваю хату і не зачыніўшы за сабой дзвярэй, з крыкам кінулася маці на шыю.

— Вярнуўся ўжо, вярнуўся, Кацярына гаварыла з ім.

П. ЛАСТАЎКА.

# Аб працы рэдакцыі беларускіх падручнікаў

(Працяг са стар.

беларусаў і таму зробіць усё каб беларускі буквар выйшаў з друку ў кастрычніку гэтага года.

Наогул кіраўніцтва Дзяржаўнага выдавецтва школьных падручнікаў надзвычай добра адносіцца да друку беларускіх падручнікаў.

— Мы не робім ніякіх перашкод каб друкаваць гэтыя падручнікі і маем на гэта фінансавыя сродкі — сказаў кіраўнік рэдакцыі Э. Расінскі. Вельмі будзем цешыцца, калі кожнае ў веку школьным дзіця ў Польшчы атрымае падручнікі ў сваёй роднай мове. Ды як-жа друкаваць беларускія падручнікі, калі так мала іх купляюць, калі яны ляжаць у магазіне і потым ідуць на макулятуру. Ці не шкада на гэта грошай?

Рэд. Э. Расінскі падае прыклады. Падручніка арыфметыкі для І класа, выдрукаванага ў 1951 годзе ў тыражы 5 тысяч экземпляраў, на працягу 6 гадоў прадалося толкі 2.823 экземпляраў. Біялогіі за два гады прадалося ўсяго толькі 25 экземпляраў. Выдадзенага ў мінулым годзе новага выдання падручніка «Пазнай сваю краіну», прадалося толькі 2 экземпляры. Не буду падаваць яшчэ больш прыкладаў тых падручнікаў, якія ляжаць у магазіне, таму што зрабіў гэта рэд. Б. Манкевіч у сваім артыкуле «Друкаваць беларускія падручнікі, ці не?». І хоць рэд. Б. Манкевіч падаваў паказчыкі з 1956 года нажаль яны дагэтуль вельмі мала змяніліся.

Мо' быць віна ляжыць і ў тым, як гэта напісаў у сваім адказе рэд. Б. Манкевічу настаўнік Несцяровіч — што беларускія падручнікі часта недастасаваны да школьнай праграмы. Ды няхай-жа напішуць аб тым і іншыя настаўнікі.

А колькі-ж можа быць і такіх выпадкаў — як гэта сказала адна з удзельнікаў З'езду беларускіх настаўнікаў у Белавежы, — што яе школа прасіла прыслаць ёй беларускія падручнікі, а прыслалі польскія і не памагла нават рэкламацыя. Аб усім гэтым нельга маўчаць, гэта-ж нашая супольная справа.

Калі і далей будзе такая-ж сітуацыя, калі беларускія падручнікі будуць гадамі ляжаць у магазінах, — адказалі мне ў Выдавецтве — тыражная камісія не пазволіць друкаваць новых выданняў падручнікаў. Неяк выглядае вельмі дзіўна — пачуў я тут ча заканчэнне — што Беларускае таварыства мала цікавіцца справай друку беларускіх падручнікаў. Ніхто з Таварыства дагэтуль да Выдавецтва не заглянуў, ніхто з намі не дыскутаваў, што трэба рабіць, каб беларускія падручнікі замест таго каб ляжаць у магазінах і пайсці потым на макулятуру трапілі ў рукі беларускіх дзяцей, якія мо' быць на іх вельмі чакаюць.

Я развітаўся з кіраўніцтвам Выдавецтва з болем у сэрцы і з пытаннем, якое мучыць мяне да гэтых пор: ці сапраўды нічога нельга зрабіць у тым напрамку, каб не трэба было спыняць друку беларускіх падручнікаў!

ВІКТАР ШВЕД



 




## Спіральная машына

*Я не думаю аб гэтых механічных пральнях, дзе так хутка сціраюць бялізну, а памалу вяртаюць яе людзям, (на чыстую бялізну кліент чакае цэлы месяц, а то і больш). Думаю аб хатняй машыне для сціркі бялізны, аб якой мараць маладыя і старэйшыя жанчыны.*

*Маладыя жадаюць мець гэтыя машыны з сімпатыі да механізацыі, а старэйшыя жанчыны натрудзіліся за сваё жыццё сціркай бялізны і жадалі-б адпачыць добра, карыстаючыся сціральнай машынай. Сціральныя машыны бываюць электрычныя і ручныя.*

*З электрычнай машынай няма бяды, хопіць штэпсель уключыць, маторчык забурчыць і бялізна сама ў катле варочаецца. Пакуль курка яйка знясе ўжо і бялізна гатова. Ручную сціральную машыну трэба круціць, дзеля таго да яе дароблена спецыяльная ручка. Некаторыя жонкі замест матора — мужыка прыключаюць да ручкі.*

*Мужыкам, якія стараюцца сумленна круціць, свядомыя жонкі нават узнагароды даюць: па палове пойкварты і кусок каўбасы з гурочкам.*

*Самі разумееце дарагія чытачы. Машына для сціркі бялізны так патрэбная ў хаце, як камбайны ў полі. Дзеля таго многія мужыкі любячыя сваіх жонак са скуры вылазяць, так стараюцца купіць сціральную машыну. Я таксама люблю сваю жонку.*

*Зажадалася мне зрабіць неспадзеўку мілай. Вырашыў, што-б там че было, купіць сціральную машыну і сам — сваімі рукамі высціраць бялізну.*

*Нажаль сціральную машыну цяжка дастаць, малавата іх у нас вырабляецца, дзеля таго мой знаёмы пазычыў мне часова ручную сціральную машыну.*

*Калі жонка была на рабоце, распусціў я мыла, наліў у кацёл гарачай вады і пачаў круціць. Так шчыра круціў, што каб замест гарачай вады, лёд быў у катле — то напэўна марожанае атрымалася-б. Машына шыпела як трамвай, аж кот спалохаўся і падняўшы трубою хвост выскачыў праз акно. Вядома, каты не разбіраюцца ў механічнай пральні.*

*Праз пойгадзіны заглянуў я ў кацёл і... трымайце мяне людзі добрыя, бялізна мая ў палоскі рознакаляровыя.*

*— Мо адкручу — думаю сабе, і пачаў у другі бок круціць машыну. Нічога не выйшла.*

*Аказваецца, што бялізну трэба пасартаваць і перш сціраць белае, а потым каляровае. У руках незнаючага машына бескарысная.*

Дзядзька Лявонь



*Лірычны дуэт ля прылаўка: «А Лявон ды Лявоніху любіў».* (Вожык)

## Можна, толькі...

— Як думаеш даражэнькая, ці адзін мужчына можа кахаць адразу дзве жанчыны?

— Можа, але толькі датуль, пакуль адна з іх аб тым не даведаецца.

Р.



*— Мамачка, пахавай гаршкі і міскі ізноў набліжаецца пост...*

## Дзе бабы растуць

— Мамачка, — а дзе бабы растуць?

— А чаму ты так пытаешся Пеценька?

— Бо як учора прыйшоў дзядзька з сваёй маладой дзядзінай — то папанька сказаў:

Чалавеча — а скуль ты такую бабу вырваў?...

## Прыгоды дырэктара Бульбачкі



*З народнай творчасці*

## Да радуецца зямная...

*(Святочныя ўспаміны)*

Эх, шкада, што вельмі хутка
Свята праляцелі:
Лёгка было так на сэрцы
І лёгка на целе.

Уся моладзь нашай вёскі —
Хлопцы і дзяўчаты,
Правялі «па хрысціянску»
Першыя дні святаў.

Зрана служба пачалася,
Людзі йшлі ў Храм Божы,
А мы ў дзвярах зачапалі
Дзяўчатак прыгожых.

Пасля пайшлі разгаўляцца
Яечкам свячоным,
Выпілі па пару чарак,
Запілі чырвоным.

Пазбіраўшыся ўсе разам,
З поўнымі кішэньмі,
Спярша біліся яйкамі
А потым каменьмі.

Прыйшла моладзь з чужых вёсак
Віншаваць са святам.
От мы іх пачаставалі,
Атлічыўся я там.

Птушкі радасна спявалі.
Званы ў царкве білі.
Трох парэзалі нажамі,
А двух утапілі.

Грала весела музыка
У суседа радам,
Хлопцы тупалі нагамі,
Дзеўкі траслі задам.

Пагулялі і там добра:
Мне падбілі вока,
Гарманісту лоб разбілі,
Гаспадару — вокны.

Добра спалі сабе потым
Пэўна да дзевятай,
Хто ў хваіне, хто пад плотам
От, гэта мне свята!

Прыслаў
МІКАЛАЙ ПУЧЫНСКІ
Тарнопаль
пав. Гайнаўка.

## АДГАДАНКА



*У гэтыя клеткі ўпішыце па гарызанталі 8 слоў, якіх значэнне бачым на рысунку. Срадковыя літары ў аблямоўцы дадуць развязку.*

*Сярод тых чытачоў, якія да 30 ліпеня г. г. прышлюць правільныя развязкі будуць разлясаваныя кніжныя ўзнагароды.* Р.

## Развязка рэбуса з 24 нумара «Нівы»

Развязка: «Шукай ветру ў полі».

Кніжныя ўзнагароды атрымалі:

1) Андрэй Валошык — Крынкі,
2) Ядвіга Кучко — Ляўкова Старае,
3) Вася Панько — Трэсцянка, Гайнаўскі павет,
4) Людміла Швайко — Рыбалы, Бельскі павет,
5) Марыя Олесюк — Парцава,
6) Мікола Кедрэлевіч — Чарэмха, Гайнаўскі павет,
7) Алесь Астроўскі — Гацькі, Бельскі павет.
8) Леанід Ануфрыюк — Паўлы, Бельскі павет,
9) Ірына Хаманюк — Зубава, Бельскі павет,
10) Сяргей Дробат — Валілы, Беластоцкі павет.

Узнагароды высылаем поштай.

## Трэба ліквідаваць цэнтралізм у прыгранічным абмене

Шмат слоў сказана аб умацаванні польска-савецкай дружбы. На шматлікіх канферэнцыях, нарадах, спатканнях многа слоў сказана на гэтую тэму. На кожнай з іх сцвярджалася, што неабходна арганізаваць як найбольш непасрэдных кантактаў з савецкімі людзьмі, бо толькі такія сустрэчы даюць найлепшыя рэзультаты. Выказала гэта і штодзённая практыка.

У Беласточчыне, і не толькі тут, прабывала шмат дэлегацыяў з Савецкага Саюза, а асабліва з Савецкай Беларусі. Бачылі мы, што кожная сустрэча з нашымі гасцямі, ці гэта ў горадзе, ці дзесьці ў далёкай вёсцы, была маніфестацыяй польска - савецкай дружбы. Гэта зусім зразумела. І жаданні актыву маюць свае абаснаванні. Таму няма ніякіх сумненняў, што трэба рабіць намаганні ў напрамку пашырэння такіх кантактаў. Ёсць усе магчымасці, каб з кожным днём абмен пашыраўся. Аб палітычным значэнні такога абмену няма патрэбы шмат гаварыць, гэта зусім зразумела.

Але бачыць такую патрэбу, апрацоўваць планы, гэта яшчэ не ўсё. План мусіць ажыццяўляцца ў тэрмінах ім прадбачаных. Дзеля гэтага патрэбная аператыўнасць у вырашанні такіх ці іншых спраў, якія вяжуцца з ажыццяўленнем пастаўленай мэты. А ў гэтай галіне ёсць яшчэ шмат недахопаў.

Сёння, калі праводзіцца дэцэнтралізацыя ва ўсіх галінах нашага жыцця, трэба падумаць і аб дэцэнтралізацыі і ў вырашэнні спраў звязаных з культурным абменам. Цэнтралізм, які яшчэ нажаль тут мае месца ў шматлікіх выпадках перашкаджае добра наладзіць працу.

А вось факты.

У першых днях мая прыбылі ў Мінск дэлегацыі Галоўнага Праўлення Польска - Савецкай дружбы і Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства. У Беларускім таварыстве культурнай сувязі з заграніцай быў абмеркаваны план культурнага абмену між БССР і прыгранічнымі ваяводствамі ў Польшчы. (У асноўным Беластоцкім і Люблінскім). Таварышы з Мінска прадставілі шырокі праект, які прадугледжваў прыезд у Польшчу артыстычных калектываў, журналістаў, працаўнікоў культуры, моладзі і г. д. Падобныя дэлегацыі мелі наведаць БССР. Прадбачвалася, што найбольш дэлегацыяў і з БССР так з Польшчы паедуць у летніх месяцах менавіта: чэрвені, ліпені і жнівені.

І вось тут даў аб сабе знаць цэнтралізм. План меў быць зацверджан праз Галоўнае Праўленне ТПП-Р і перасланы ў Мінск, ужо ў гэтым выпадку, як дакумент, які забавязаў-бы адзін і другі бок да яго ажыццяўлення. Нажаль большасць мерапрыемстваў прадбачаных у плане не ажыццявіліся. З вельмі простай прычыны Таварышы ў ГП ТПП-Р аж два месяцы не маглі яго зацвердзіць. Наступіла гэта ў апошніх днях чэрвеня, тады калі ўжо не можна было гаварыць аб абмене ў чэрвені і ў ліпені, таму што не было вядомым што будзе зацверджана, а што не.

Як сказана вышэй, план прадбачваў у асноўным абмен паміж БССР і Беластоцкім і Люблінскім ваяводствамі. Не ведаем, як было ў Любліне, але ў Беластоку праект плана быў абмеркаваны і сустрэўся з вялікім адабрэннем. Зацікаўленыя гэтай справай арганізацыі ўлічылі ўсё магчымае ў мэце яго ажыццяўлення. Чакалі толькі на рашэнне з Варшавы. І чакалі, як было сказана, доўга.

А ўсе справы, якія датычылі Беласточчыны, можна было вырашыць на месцы ў Беластоку. І трэба аб гэтым падумаць у будучыні. Сітуацыя, якая вытварылася ў успамянутым выпадку не можа паўтарыцца.

Галаўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

„NIWA" Organ Białoruskiego Towarzystwa Społeczno - Kulturalnego w Białymstoku. Adres redakcji: Białystok, ul. Manifestu Lipcowego 25, tel. 25-89. Warunki prenumeraty: miesięczna — 2.40 zł, kwartalna — 7.20 zł, półroczna 14.40, roczna 28.80. Prenumeratę przyjmują wszystkie urzędy pocztowe i listonosze. Wydawnictwo: RSW „Prasa".
Prenumeratę ze zleceniem wysyłki zagranicę przyjmuje PKWZ „Ruch" Warszawa Należność wpłacać na konto PKO I-6-100024 Warszawa Cena prenumeraty z wysyłką zagranicę wynosi: kwartalnie 10,15 zł, półrocznie 20,30 zł, rocznie 40,60 zł. Druk Białostockie Zakłady Graficzne, Nakład 5.205 T-12